

# Магілёўскі Час

*Час склікаці ўжо грамаду*
*На вялікую нараду,*
*На вялікі сход!*
*Хай рассудзіць, хай разважа,*
*Слова цвёрдае хай скажа,*
*Скажа сам народ!*
*Я. Купала*

№12 (12) 12 ліпеня - 25 ліпеня 2007 года

## У гэтым нумары:



## Віншуем са святам!



## 27 ліпеня Дзень Незалежнасці

МИР



### Найден самый крупный клад викингов за последние 150 лет

Клад обнаружили двое британцев - Дэвид и Эндрю Уэланы, которые увлекались поисками древних захоронений.

Обследуя территорию одной из ферм в графстве Норт-Йоркшир (Великобритания) при помощи металлоискателя, они нашли позолоченную серебряную чашу, 617 серебряных монет, золотые браслеты, броши, а также куски необработанного серебра.

Специалисты считают, что все эти драгоценности принадлежали знатному викингу, который зарыл их в землю для сохранности примерно в 927 году. Именно в это время при короле Этельстане англосаксы изгнали викингов из северной Англии.

Согласно законам Великобритании, Британскому музею будет предложено выкупить эти ценности, а вырученные деньги будут поровну разделены между кладоискателями и владельцем земельного участка.

### "Индийский Робин Гуд" погиб в перестрелке с полицией

Один из самых известных индийских грабителей Шив Кумар Пател, которого полиция не могла поймать в течение 30 лет, был убит в перестрелке между членами его банды и полицейским спецназом, сообщает Reuters. Лидер грабителей был давно объявлен в розыск, в отношении него власти выдвинули более 200 обвинений, среди которых убийство, похищение людей и вымогательство.

Между тем среди местных жителей, Шив Кумар Пател был известен как своего рода "Робин Гуд", потому что грабил богатых и делился с бедными. Кроме того, грабитель, скрывавшийся в джунглях на севере страны более 30 лет, защищал лес от незаконных вырубок и браконьеров.

За поимку знаменитого грабителя была ранее объявлена награда в 12 тысяч долларов. Кому она достанется, пока неизвестно.



### Работа в Польше без разрешения

С 20 июля граждане Украины, Беларуси и России могут работать в Польше без разрешения на работу. Гражданам этих трех стран нужны только документы от польского работодателя, чтобы получить визу на период трех месяцев.

До этого времени без разрешения на протяжении трех месяцев можно было работать только в сельском хозяйстве. Новое распоряжение касается всех сфер на рынке труда. Работники могут трудоустроиться два раза в год по три месяца.

Новое распоряжение разработано в связи с отсутствием в Польше рабочей силы.

БЕЛАРУСЬ



### Беларусь стоит на пороге волны приватизации

В Беларуси в ближайшее время начнется приватизация объектов нефтехимической отрасли. По всей видимости это произойдет после отставки действующего главы правительства республики Сергея Сидорского, указ о которой, по данным газеты "Коммерсантъ", уже подписан.

Предполагается, что указ президента Александра Лукашенко об отставке правительства будет обнародован уже в самое ближайшее время. Эксперты объясняют решение Лукашенко в том числе и не лучшей экономической ситуацией в стране. В частности, за период с января по май сформировалось отрицательное сальдо внешней торговли в $1450,7 млн, что почти вдвое больше, чем в аналогичный прошлогодний период.

Ожидается, что главным итогом отставки станет приватизация объектов, в которых заинтересованы в том числе и российские компании. В частные руки может перейти компания "Белнефтехим", часть нефтеперерабатывающих компаний, а также предприятия по производству удобрений.

Что касается будущего премьер-министра Беларуси, то по данным "Коммерсантъ" одним из главных претендентов на эту должность является нынешний глава МВД республики Владимир Наумов.

### Сухаренко сняли за избиение чекистами руководителя Комитета госконтроля?

Стали известны сенсационные подробности отставки с должности председателя Комитета государственной безопасности Беларуси Степана Сухоренко.

По версии опубликованной в белорусском Интернет-издании «Завтра твоей страны», 17 июля неизвестными в Могилеве был избит председатель Комитета государственного контроля Зенон Ломать. Восемь хулиганов после совершения противоправного деяния скрылись, однако до конца дня были задержаны оперативниками Главного управления по борьбе с организованной преступностью и коррупцией МВД. Ими оказались 7 сотрудников Комитета государственной безопасности и один работник аппарата Совета безопасности.

Сейчас задержанные находятся в следственном изоляторе и дают показания. Расследованием скандального дела занимается Генпрокуратура.



### У минского метро будет четыре линии

В перспективе, а именно к 2030 году, Минский метрополитен будет состоять из четырех линий с шестью пересадочными станциями. Об этом сообщил руководитель КУП «Дирекция по строительству Минского метрополитена» Василий Жибуль. Данное решение содержится в разработанной недавно проектным предприятием «Минскградо» комплексной транспортной схеме столицы, которая в ближайшее время будет утверждена на заседании Мингорисполкома. Общая протяженность метро составит 72 км с 53 станциями.

МОГИЛЕВ



### В Могилеве построят аквапарк

Могилевский горисполком намерен реализовать проект строительства культурно-оздоровительного комплекса "Аквапарк".

"Аквапарк" планируется построить на территории в районе поселка Буйничи. Предполагаемая общая площадь комплекса - 11800 квадратных метров, стоимость проекта - 8,5 миллионов евро. Возвести "Аквапарк" запланировано за полтора года.

В новом строении будут размещены разнообразные аттракционы, бассейны, открытый ледовый каток, теннис, бильярд, фитнесс-центр, оздоровительный комплекс, ресторан, кафе, бар...

В настоящее время отдел по спорту и туризму Могилевского горисполкома активно ищет инвесторов для участия в реализации данного проекта.



### Байкерская свадьба в Могилёве

21 июля жители нашего города стали свидетелями захватывающего события - байкерской свадьбы: кортеж, возглавляемый женихом, следовал по улицам города. Узами брака связали себя члены могилевского байкерского клуба.

У жениха и невесты вместо традиционных костюмов - кожаные брюки, банданы и косухи. Вместо шикарных машин - мотоциклы. Брачующиеся, толпящиеся возле ЗАГСА, с изумлением взирали на колонну мотоциклистов. Приехало даже городское телевидение.

### Улице вернули историческое название

В субботу возле здания пожарного депо состоялось торжественное мероприятие по возвращению исторического названия «Пожарный переулок» улице Карла Либкнехта.

Вопрос о переименовании могилевских улиц был поднят в 1992 году, после создания в городе топонимической комиссии, в которую вошли историки и краеведы. В 2005 году они выработали Концепцию переименования, главным пунктом которой стало возвращение старинным улицам города их исторических названий.

# Жыве Беларусь!

З XIII па XVIII стагоддзяў Вялікае Княства Літоўскае - старажытная дзяржава беларусаў, якія называлі сябе ліцвінамі, - было адным з самых магутных, свабодных і квітнеючых у Еўропе. У выніку бязлітасных войнаў, развязаных Расейскай імперыяй супраць беларускай дзяржавы, наша тэрыторыя ў канцы XVIII стагоддзя была захоплена Расеяй. З таго часу беларусы вядуць упартую барацьбу за сваю незалежнасць. Галоўнымі падзеямі ў гэтым змаганні былі гераічныя паўстанні 1794, 1830, 1863, 1918 гадоў.

У 1918 годзе ў выніку распаду Расейскай імперыі была ўтворана Беларуская Народная Рэспубліка (БНР), незалежнасць якой была абвешчана 25 сакавіка. Разам з намі з-пад расейскага прыгнёту вызваліліся Фінляндыя, Польшча, Украіна, Грузія, Эстонія, Латвія і іншыя. Але расейскія бальшавікі зноў развязалі захопніцкія войны супраць новых суверэнных краін. Толькі Фінляндыя, нягледзячы на агрэсію 1939-40 гадоў, здолела адстаяць сваю свабоду.

Беларусы, якія апынуліся ў абцугах расейскай, польскай і германскай агрэсій, пры ўсёй мужнасці супраціўлення (Слуцкі збройны чын), не змаглі гэтага дамагчыся.



У канцы 1980-х гадоў адбыўся распад Савецкай імперыі. 27 ліпеня 1990 г. Вярхоўны Савет Беларусі прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце. Аб незалежнасці таксама заявілі ўсе былыя савецкія рэспублікі. Другі раз за XX ст. Беларусь была абвешчана суверэннай дзяржавай, мэта якой - свабоднае развіццё, дабрабыт і годнасць кожнага яе грамадзяніна.

27 ліпеня, з'яўляецца святам беларускага народа!

Нагадаем, што афіцыйные ўлады адмянілі свята пасля рэфэрэндуму 1996 году, на якім Аляксандр Лукашэнка атрымаў неабмежаваныя паўнамоцтвы. Дзень Незалежнасці пачалі адзначаць у дзень вызвалення Мінску ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў 3 ліпеня. Дэмакратычнае асяроддзе параней шаму адзначае Дзень незалежнасці менавіта 27 ліпеня.



**Рыгор Кастусёў, старшыня Магілёўскай абласной арганізацыі партыі БНФ:**

27 ліпеня 1990 года - гэта для мяне сапраўдны Дзень Незалежнасці. Для Беларусі - гэта, на маю думку, дзень які можна параўнаць з 25 сакавіка 1918 года. 27 ліпеня беларусам зноўку ўдалось аднаівць незалежнасць. Гэты дзень, які раней з'яўляўся афіцыйным Святам, быў Святам для ўсіх жыхароў Беларусі, незалежна ад іх поглядаў і палітычнай прыналежнасці. Свята яднала беларусаў. Але для Лукашэнкі падобная сітуацыя не прыймальна, таму ён і зрабіў ўсё, каб на дзяржаўным узроўні гэты дзень стаў звычайным.



**Генадзь Суднік, вольны журналіст:**

Безумоўна, што для кожнага нацыянальна сьвядомага чалавека ў нашай краіне Днём Незалежнасьці застаецца і будзе 25 Сакавіка. Але ў нас ёсьць пэўны абавязак перад Гісторыяй і Часам паважаць і разумець 27 Ліпеня. Гэты дзень справядліва займае сваё вельмі пачэснае і прыстойнае месца ў шэрагу падзей нашай найноўшай гісторыі. На чарговым павароце няпростай беларускай гісторыі менавіта ён, гэты дзень, выступіў прадаўжальнікам і гарантам увасабленьня ў жыцьцё спрадвечнай народнай мары аб незалежнасьці і свабодзе. Менавіта таму гэты дзень "адменены" цяперашняй уладай, а дзень папярэдняга абвешчаньня сувэрэнітэту ёю ўвогуле "забаронены". Бяру гэтыя словы ў двухкосьсе ня толькі ў адпаведнасьці з правіламі граматыкі, бо здзейсьніць тое, што яны пазначаюць - адмяніць і забараніць памяць і гісторыю - нікому насамрэч не па сілах. Ні дэпутацкай палатцы, ні падробнаму рэфэрэндуму, ні нават указу няхай сабе і самага неабмежаванага, здаецца, у сваіх аўтарытарных магчымасьцях кіраўніка... Значна больш моцныя, хаця часова яны могуць адступаць, правілы сэнсу, правілы сумленьня і правілы розуму. У адпаведнасьці з імі ў нас ёсьць усе правы адкрыта, годна і весела адзначыць 27 Ліпеня. Дарэчы, я гэта абавязкова зраблю за сямейна-сяброўскім сталом.



**Сяргей Стральцоў, старшыня Магілёўскай гарадской арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі:**

27 ліпеня 1990 г. Вярхоўны Савет Беларускай ССР прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце. Магчыма, на той момант народныя выбраннікі не да канца разумелі важнасць адбыўшайся падзеі. Яшчэ існаваў Савецкі Саюз, які быў таталітарнай сістэмай, аднак Беларусь, так як і Прыбалтыйскія рэспублікі імкнулася да свабоды і незалежнасці.

Прайшло больш за год, раней за тое, як развалілася "імперыя зла" і наша краіна атрымала рэальны сувірэнітэт. Перад маладой дзяржавай адкрыліся вялікія магчымасці і перспектывы, якія існуюць і да сённяшняга дня. І ў нашай краіны яшчэ ёсць магчымасць апынуцца ў адзінай Еўрапейскай сям'і, стаць цывілізаванай дэмакратычнай дзяржавай, і гэта залежыць толькі ад нас - беларусаў.

І я спадзяюся, што хутка 27 ліпеня стане афіцыйным дзяржаўным святам, бо я ўпэўнены, што гісторыя гэтага запатрабуе - і да гэтага прыйдзе калі-небудзь альбо цяперашняе кіраўніцтва краіны альбо новае дэмакратычнае.



**Аляксандр Сілкоў, лідэр Магілёўскай кааліцыі Аб'яднаных дэмакратычных сілаў**

27 ліпеня для мяне вялікае свята. 27 ліпеня 1990 года была прынятая Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце. У каторы раз беларусы заявілі аб сабе як аб нацыі, як аб незалежнай суверэннай дзяржаве.

Я памятаю гэты час, 1990-ы год, калі наша краіна набыла статус Суверэннай дзяржавы. Я зразумеў тады, што пасля развалу Савецкага Саюзу і абвяшчэння незалежнасці, нам застаецца вялікі скарб - чароўная і маладая краіна, якая можа стаць маленькай Швейцарыяй. Аднак, нажаль, за гэтыя гады мы страцілі парасткі дэмакратыі, і я веру ў тое, што Беларусь будзе незалежнай дэмакратычнай дзяржавай. А я сам, як прымаў так і буду прымаць актыўны ўдзел у палітычным і грамадскім жыцці краіны за дасягненнем светлай мэты.

Я буду адзначаць гэтую дату. Я ведаю, што ў гэты дзень са мной будзе пачуццё свята.

Гэтая дата пакуль не занесена ў календар афіцыйных святочных мерапрыемстваў, аднак я веру, што хутка гэта адбудзецца.

ГОРАДСКІЯ ПАДЗЕІ

# Канферэнцыя аб'яднаных дэмсілаў Магілёўшчыны

15 ліпеня прайшла Магілёўская абласная Канферэнцыя Аб'яднаных дэмакратычных сілаў, якая сабрала палітычных і грамадскіх актывістаў з усёй вобласці. Дэлегатамі канферэнцыі былі найбольш актыўныя палітычныя і грамадскія дзеячы рэгіёну: кандыдыты ў дэпутаты мясцовых Саветаў, актывісты рэпрэсаваныя падчас апошніх палітычных кампаніяў, прадстаўнікі абласных арганізацый Аб'яднанай Грамадзянскай Партыі, партыі Беларускі Народны Фронт, Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай партыі "Грамада", аргкамітэту Партыі Свабоды і Прагрэсу а таксама прадстаўнікі Свабодных Прафсаюзаў і рэгіянальных кааліцыяў.

На Канферэнцыі падсумаваліся вынікі Прэзідэнцкай кампаніі, выбараў у мясцовыя Саветы дэпутатаў і Кангрэсу дэмакратычных сілаў Беларусі.

Галасаваннем была прынятая "Праграма дзейнасці на перыяд да 2008 года". Асноўнай мэтай праграмы было



прызначана: каардынацыя дзеянняў суб'ектаў кааліцыі для сумеснага правядзення грамадска-палітычных кампаніяў, каардынацыя ўсіх Аб'яднаных дэмакратычных сілаў Магілёўшчыны, супраца з усімі дэмакратычнымі пілітычнымі партыямі, грамадскімі аб'яднаннямі, рухамі, кааліцыямі і іншымі грамадскімі ініцыятывамі.

Таксама сумесна было прынятае "Палажэнне аб Магілёўскай абласной міжрэгіянальнай кааліцыі".

Была абраная Каардынацыйная Рада Аб'яднаных дэмсілаў Магілёўскай вобласці.

"Такая канферэнцыя была неабходная. Бо хутка выбары ў Палату Прадстаўнікоў, на гэтую кампанію мы мусім ісці падрыхтаваныя і аб'яднаныя. Каб выпрацаваць агульную стратэгію на выбары і іншыя палітычныя і грамадскія кампаніі нам патрэбная сумесная праца, і менавіта гэтая канферэнцыя павінна стаць новай глебай для агульнай сумеснай працы дэсілаў Магілёўскай вобласці,"- зазначыў адзін з удзельнікаў Канферэнцыі, сябра сойму партыі БНФ Зміцер Салаўёў.

Як вынік сходу была састаўленая Рэзалюцыя, якая заклікае супрацоўнічаць з кааліцыяй усіх дэмакратычна накіраваных грамадзянскіх і палітычных актывістаў

**Ганна Чарнецкая**

# Будаўніцтва на магілёўскім замчышчы спынена




На Магілёўскім замчышчы спынена будаўніцтва храма-помніка, якое было распачата сёлета ў чэрвені.

Нагадаем, будаўніцтва пачалося без узгаднення з археолагамі, у выніку чаго на сметнік была вывезена частка культурнага слою.

Гісторыкі накіравалі скаргу ў міністэрства культуры. Па словах загадчыка кафедры археалогіі Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта, доктара гістарычных навук Ігара Марзалюка, днямі з Генеральнай пракуратуры Беларусі прыйшоў адказ, што па факце незаконнага будаўніцтва на замчышчы распачата крымінальная справа.

Дарэчы, пры правядзенні раскопак, на месцы, куды быў вывезены гістарычны слой, археолагі знайшлі металічныя рэчы і кераміку XII-XVII стагоддзяў, невялікую іконку, якая датуецца XI стагоддзем і іншыя рэчы, якія дапамогуць даследчыкам папоўніць гістарычную спадчыну Магілёва.

**Ганна Ільіна**

# Шацікава зноў папярэджана

Як стала вядома толькі на днях, Магілёўская камісія Кастрычніцкага раёну па справах непаўнагадовых 11 чэрвеня правяла паседжанне па справе Крысціны Шацікавай без яе. Камісія вынесла папярэджанне ў адрас Шацікавай наконт яе неправільных паводзінаў у выхаванні дзяцей.

Нагадаем, за некалькі дзён да камісіі Крысціна накіравала заяву з просьбай перанесці паседжанне на іншы дзень, бо 11 чэрвеня яна была сведкам на судзе ў Віцебску. Адказ на ліст яна так і не атрымала.

Адвакат Крысціны даў запрос аб азнаямленні з матэрыяламі справы і прысудам, у чым яму было адмоўлена. Шацікава мяркуе накіраваць скаргу на дадзенае рашэнне ў Кастрычніцкі суд горада Магілёва.

**Ганна Ільіна**

# Старых кармілі чэрствым хлебам...

Скандалам скончылася праверка Расцянскага дома-інтэрнату для састарэлых і інвалідаў, што ў Магілёўскай вобласці.

Кантралёрамі сумесна з абласным Цэнтрам гігіены і эпідэміялогіі было выяўлена, што тут старых і нямоглых кармілі чэрствым хлебам, паілі разбаўленым вадой кампотам.

Акрамя таго, на складзе захоўваліся 55 пачак пратэрмінаванага маянэзу, а таплёнае малако валялася проста на бруднай падлозе. А выпадкова зазірнуўшы ў кацёл, кантралёры знайшлі там муху. Па выніках праверкі ў Магілёўскі аблвыканкам накіраваныя прапановы па вызваленні шэрагу службовых асобаў ад іхніх пасадаў.

Цікава, што яшчэ мінулай зімой, у адказ на зварот аднаго з грамадзянаў,



Камітэт дзяржкантролю накіраваў у гэтым дом-інтэрнат на Магілёўшчыне першую інспекцыю, выніки якой выклікалі шокавы стан санітарных службаў - на харчблоку была выяўленая кішэчная палачка. Акрамя таго, на працягу ўсяго мінулага года старыя і хворыя людзі ніводнага разу не атрымалі прадугледжаных нормамі каўбасных вырабаў і сыру. Спажыванне сокаў трымалася на ўзроўні 10% ад запланаванага. А штодзённае меню фармавалася ў залежнасці ад наяўнасці прадуктаў на складзе. У выніку старыя і нямоглыя практычна ўвесь час адчувалі пачуццё голаду.

Па выніках той праверкі чатыры супрацоўнікі дома-інтэрната былі прыцягнутыя да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафа, а восем чалавек атрымалі дысцыплінарныя спагнанні. Тым не менш, высноваў зроблена не было.

**Аляксандар Буракоў,**
**Радыё Рацыя**

# Чарговая спроба вярбоўкі моладзі



Міліцыянты чарговы раз паспрабавалі завербаваць непаўнагадовага актывіста дэмакратычных сілаў. У якасці аплаты за супрацу хлопцу была прапанаваная дапамога пры паступленні ў ВНУ.

16 ліпеня ў Магілёве прайшла акцыя "Салідарнасці" з сем'ямі зніклых палітыкаў і палітзняволеных. Яе ўдзельнікі раздавалі мінакам брашуры "Зніклыя людзі ў Беларусі" і трымалі ў руках партрэты ўсіх зніклых.

Падчас акцыі міліцыяй (маёрамі Дысенковым і Парковым) быў затрыманы і дастаўлены ў Ленінскі РАУС непаўнагадовы Канстанцін Яўсееў. Яго затрымалі за распаўсюд брашураў.

Пасля таго, як хлопца адпусцілі, ён распавёў, што яго пратрымалі ў РАУСе каля паўгадзіны пасля чаго пасадзілі ў "казёл" і павезлі ў пастарунак на вул. Крыленкі, дзе з ім меў прафілактычную гутарку маёр Паркоў, які прадставіўся "экпертам". Падчас гутаркі ён настойліва прапанаваў юнаку інфармаваць яго аб дзейнасці дэмакратычных сілаў, а таксама дапамогу пры паступленьні ў ВНУ ў замен на супрацоўніцтва. У рэшце даў яму сваю візітоўку й хацеў правесці да дому. Але хлопец збег ад яго на прыпынку на бліжэйшым аўтобусе.

**Сяргей Гіркін**

# Штраф за 6 асобнікаў газеты

20 ліпеня ў другой палове дня міліцыянты затрымалі грамадскага актывіста, інваліда 2-й групы Сяргея Гіркіна ў цэнтры Магілёва ў момант раздачы мінакам бюлетэню "Веснік кампаніі па абароне права на свабоду сумлення". Распаўсюдніка даставілі ў адзін з пастарункаў міліцыі Магілёва. Пры ім былі знойдзены яшчэ 6 асобнікаў бюлетэню, пасля складання пратаколу вымання, міліцыянты адабралі друкаваную прадукцыю.

У міліцыі Сяргею стала кепска і яго на "хуткай дапамозе" даставілі ў абласную бальніцу.

Паколькі пратакол затрымання 20 ліпеня скласці не ўдалося, старэйшы лейтэнант міліцыі Кірыл Воранаў уручыў Гіркіну павестку на панядзелак 23 ліпеня.

У кабінет да старэйшага ўчастковага Цімура Пахоменкі грамадскі актывіст прыйшоў разам са сваім грамадскім прадстаўніком, сябрам Магілёўскага праваабарончага цэнтра Барысам Бухелем. Аднак міліцэйскі афіцэр не дазволіў праваабаронцу прысутнічаць пры размове, матывуючы гэта адсутнасцю ў таго дакументу, які даваў бы права на такі ўдзел у справе.



Спасылкі на Канстытуцыю, якая наўпрост дазваляе практыку грамадскага прадстаўніцтва ў міліцыі і ў судах, а таксама на права атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю не паўплывалі на ўчастковага міліцыянта.

Па словах Гіркіна, міліцыянт паведаміў яму і яго прадстаўніку, што міліцыя зараз кіруецца новым Адміністратыўным Кодэксам, які "вышэй за Канстытуцыю, бо дае ёй тлумачэнне".

23 ліпеня Ц.Пахоменка склаў адміністрацыйны пратакол на Сяргея Гіркіна за распаўсюд друкаванай прадукцыі, "якая не мела на сабе выходных дадзеных". Актывіст адмовіўся прызнаць такі пратакол справядлівым і не падпісаў яго. Напрыканцы размовы ўчастковы папярэдзіў Гіркіна, што ў судзе яго могуць пакараць штрафам ад 20 да 50 базавых велічынь.

**ГА "Беларуская асацыяцыя Журналістаў"**

# Пакаранне засталося ў сіле

23 ліпеня суд Ленінскага раёну Магілёва не задаволіў скаргі моладзевай актывісткі Таццяны Буланавай.

Праз суд актывістка намагалася адмяніць пастанову адміністрацыйнай камісіі гэтага ж раёну, якая 11 чэрвеня аштрафавала яе на 155 тысяч рублёў. Суддзя Ірына Сарока не знайшла падставаў, каб адмяніць гэтае пакаранне.

11 чэрвеня адміністрацыйная камісія Ленінскага раёну Магілёва пастанавіла пакараць Таццяну Буланаву за тое, што яна, нібыта, парушыла указ прэзідэнта "Аб правілах упарадкавання і ўтрымання гарадскіх тэрыторыяў".

Уноч з 16 на 17 красавіка Таццяну Буланаву і трох яе сяброў затрымаў прапаршчык міліцыі Андрэй Савіцкі. Ён звінаваціў Таццяну ў расклейванні на слупах плакатаў "Свабоду Дашкевічу". Ягоны рапарт і зрабіўся падставай для пакарання актывісткі. У судзе Таццяна Буланава сваёй віны не прызнала, а пастанову адміністрацыйнай камісіі назвала неабгрунтаванай і надуманай. Актывістка збіраецца цяпер абскарджваць пастанову ў судзе.

**Паводле Радыё Свабода**

УЗНИК СОВЕСТИ

# "Химия" его не сломила



***Бывает такое, что, пообщавшись с человеком, чувствуешь, как сжимается сердце и тоскливо становится на душе. Не хочется продолжать разговор, но если обстоятельства заставляют, то контролируешь каждое слово. Чаще всего так происходит при общении с хорошим знакомым, с кем приходится иметь дело, но от кого подсознательно исходят импульсы недоверия и зависти. После таких встреч стараешься уйти от неприятных переживаний, переключить на светлые мысли, на образы чистых и славных людей...***

Несколько дней назад ездила в Могилев к Артуру Финкевичу, отбывающему там полуторагодичные исправительные работы, так называемую «химию». За пять часов дороги о многом было переговорено с моими собеседниками, несмотря на двуязычие (мне так и не удалось перейти на белорусскую мову). Оказывается, Артур Финькевич, Борис Горецкий и Дмитрий Дашкевич свою трудовую деятельность начали на Червенском рынке. Их бизнесом был горячий чай и кофе, который они развозили по торговым рядам. Хлопцы разливали в термосы кипяток и возили по рынку тележки, предлагая на любой вкус разные сорта кофе и чая. Заодно по-белорусски говорили о политике в стране и о житейских проблемах продавцов. Их знали и любили - симпатичных и добрых ребят, невысокого Диму и долговязых Артура и Бориса. Иногда на 10 - 15 суток они пропадали, и продавцам потом объясняли, что приходилось отбывать административные аресты за массовые акции. Но за последний год никто из них на «Червяке» не появился, и когда Борис по какой-то надобности оказался на рынке, то его забросали вопросами: «Куда вы делись?», «Где Дима и Артур?». Узнав, что Дима сидит в тюрьме, а Артур - на «химии», возмущению не было предела. Все понимают, что тюрьма и исправительные работы - это отнюдь не административный арест.

Дима и Артур сегодня отбывают суровое наказание за то, что действовали от имени незарегистрированной организации. Они были бы рады работать легально, но наше законодательство избирательно и опускает шлагбаум перед такими инициативными ребятами. Право на политику у нас принадлежит ограниченному кругу. Ребята знали, что их ждет, но сознательно шли по трудному пути, не уехали за границу, не покаялись, а остались верными своему братству и своему слову.

Может показаться, что пафосные слова не к месту. В данном случае - это не дежурные фразы, а лишь маленькая толика того, что эти ребята заслуживают. Когда я встретила Артура Финкевича в Могилеве выходящим из спецкомендатуры, то увидела, как изменился парень за этот год - из просто симпатичного юноши он превратился в зрелого молодого человека, в котором замечательная внешность дополняется рассудительностью и взвешенностью. Ни позерства, никаких других лишних признаков геройства в нем не замечается. Может быть, немного смущается от внимания, может быть, старается отвлечь окружающих от своих внешних данных - греческого профиля, высокого роста, гармоничного сложения. Опускает голову, немного сутулится, и конечно, как результат тюремных условий, во взгляде чувствуется настороженность. Такой взгляд и оборонительная тактика в поведении свойственны людям, находящимся в заключении и лишенным свободы. Через час общения с нами Артур оттаял, исчез комплекс затравленного человека, он стал раскованно и свободно говорить о работе, о маме, о делах в оппозиции.

Несколько слов о работе - раньше был оформлен дворником в детском садике, теперь отправляют на одно из самых вредных производств в стране. Немного слов о маме - за эти месяцы она состарилась на семь - десять лет ... И все время - о политике, о проблемах в оппозиции, о делах и планах. Артур хорошо осведомлен о том, что происходило на последнем конгрессе демсил. Некоторые речи даже слушал по телефону, друзья, сидящие в зале, включали мобильники и передавали в онлайновом режиме все, что происходило в зале. Прекрасно понимает, что последние изменения в руководстве - результат неудовлетворенных амбиций и вмешательства внешних сил. Переживает, что не все в оппозиции думают про Беларусь и действуют, исходя из интересов страны.

Артур навел мосты с активистами из Могилева. Знает всех, кто действует в оппозиционных организациях города и области. Поддерживает и помогает тем, кто борется, а не делает видимость, - Кристине Шатиковой и Сергею Стрельцову. В свою очередь, ему тоже помогают - бытовые проблемы решаются не в спецкомендатуре, а с помощью друзей.

Город Могилев, прежние годы навевавший на меня тоску, ныне показался живым и ярким. Во дворе спецкомендатуры стоял видный белорусский парень, его окружали приехавшие из Минска друзья и пришедшие из могилевских организаций парни и девушки. Дежуривший майор спецкомендатуры не «качал» права, а нормально реагировал на наше присутствие. Молодые люди вокруг Артура не ругались, не пили и не курили, а говорили о делах своей страны и ее национальном достоинстве.

Внешне могло показаться, что данная сцена кем-то подготовлена и срежиссирована. Но, находясь в кругу этих людей, видя их непроизвольную реакцию и бьющие через край юношеские эмоции, убеждалась, что никто ни во что не играет. Они - настоящие, молодые политики, симпатичные ребята и девушки, которые вправду озабочены судьбой Родины.

С такими светлыми чувствами мне удалось вернуться на днях из Могилева, приобретя запас прочности против неприятных встреч, от которых обычно терзается сердце и болит душа.

**Людмила Грязнова,**
**Правозащитница**

САЛІДАРНАСЦЬ У ІМЯ СВАБОДЫ

На днях завяршыўся аўтапрабег, у якім ўзялі ўдзел каля дваццаці чалавек па маршруце Мінск - Баранавічы - Нясвіж - Салігорск - Шклоў - Магілёў - Мінск.

Аўтапрабег, які ладзіла незарэгістраваная арганізацыя "Малады Фронт" прымеркаванага да дня народзінаў палітвязня Зьмітра Дашкевіча.

Падчас паездкі актывісты "Маладога Фронту" мелі намер наведаць сяброў, якія знаходзяцца зараз за кратамі ў розных гарадах Беларусі.

Пра аўтапрабег салідарнасці расказаў Павал Севярынец:

"Нам удалося ўсё-такі прарвацца да Апалонаўкі, да таго месца, дзе знаходзіцца калонія і ўтрымліваецца Зміцер Дашкевіч. Там нас сустрэлі дзясяткі міліцыянтаў з машынамі. Там нас завезлі ў раённы аддзел Шклова.

Калі мы былі ў Шклоўскім раённым аддзеле міліцыі, мы дамагліся сустрэчы з прадстаўнікамі папраўчай калоніі №17, дзе ўтрымліваецца Зміцер Дашкевіч. Прыехалі прадстаўнікі калоніі: маёр Балышкін і оперупаўнаважаны, які вядзе справу Зьмітра Дашкевіча. Яны катэгарычна адмовілі ў сустрэчы, але мы змусілі іх даць слова афіцэра, што яны перакажуць нашы віншаванні Зьмітру.

Мы хацелі трапіць да Артура Фінькевіча на працу, але з працы яго перавезлі ў Магілёў, у камендатуру. Мы цяпер перадаем магілёўцам для яго падарунак - торт - і наказ - наведаць яго ў камендатуры, калі гэта будзе магчыма".

Варта зазначыць, што ў Дзяржынску міліцыянты затрымалі аўтамабілі, на якіх ехалі маладафронтаўцы. Далей моладзь працягнула акцыю грамадзкім транспартам.

Акцыя скончылася ў Магілёве, дзе моладзь хацела наведаць свайго сябра Артура Фінькевіча, які адбывае "хімію" у Магілёве за графіці палітычнага зместу.

**Ганна Чарнецкая**



Пушкін Ігар Аляксандравіч, кандыдат гістарычных навук

(Працяг. Пачатак у №11)

## Месцараспалажэнне Магілёва

Калі б на Беларусі не было рэк, дык чалавек ніколі б не з'явіўся на абшарах нашай Бацькаўшчыны. Са старажытных часоў засяленне тэрыторый адбывалася ўздоўж рэк. Месца, дзе ўзнік наш родны Магілёў, было вельмі спрыяльнае для жыцця чалавека. Не толькі таму, што тутака перакрыжоўваліся гандлёвыя і іншыя шляхі. Над шырокім і шматводным Дняпром узвышаліся халмы, узгоркі, было вельмі зручна для жыцця.

Рака Дняпро - адна з самых буйнейшых у Еўропе, яе агульная даўжыня - каля 2201 кіламетра. Гэта быў галоўны гандлёвы шлях «з вараг у грэкі». На мапах і ў даведніках пазначана: «Магілёў - рачны порт на Дняпры», яшчэ ў пазамінулым годзе гэта выглядала смешна, а сёлета па рацэ курсіраваў прагулачны карабель, з'явілася магчымасць у магілёўскіх немаўлятак адчуць дрыжэнне палубы і пачуць сябе капітанам. Абмялеў Дняпро ў раёне горада. А, здаецца, зусім нядаўна, у 50-60-я гады 20 ст. Магілёў быў сапраўдным портам, рачны транспарт па рацэ падымаўся вышэй па цячэнню да г.Оршы. Яшчэ да вайны, у раёне сённяшняга пляжа была сапраўдная прыстань.

Гораду не хапае вады. Абмялелі рэкі і з-за глабальных экалагічных праблем, і з-за прамысловага росту Магілёва, адпаведнага павелічэння колькасці насельніцтва.

Рака Дубравенка сёння нагадвае ручаёк. Яе агульная даўжыня каля 18 км, пачынаецца ад в. Сафіеўка Пашкаўскага сельсавета. 22 працэнты ракі знаходзіцца ў лесе, мае два прытокі: Струшню і Прыснянку. Нічым не нагадвае паўнаводную раку. Калісьці, будучы акадэмік і даследчык Арктыкі Ота Шмідт у шасцігадовым узросце пераплыў Дубравенку і гэта была незвычайная з'ява, аб ёй напісана было ў адзінай газеце «Могилевские губернские ведомости». У 1930-я гады вялікія лодкі з рыбаю падымаліся ўверх па цячэнню Дубравенкі да прыстані, якая была ў раёне сённяшняга Мінскага рынку. Паціху знікаюць дробныя рачулкі і ручайкі на тэрыторыі горада, знікае і чалавечая памяць аб іх.

Яшчэ пасля вайны гарадскі пляж быў там, дзе ў р. Дняпро ўпадала рэчка Дзебра, там быў натуральны пясчаны пляж. Гэта ў раёне сённяшняга Падніколля. Дзебра - правы прыток Дняпра, даўжынёю крыху болей 3 км, цячэ ўздоўж вуліцы Катоўскага. У раёне Магілёўскага аўтавакзала яе замуравалі ў трубы, раку напаткаў лёс Нямігі ў Мінску, Няглінкі ў Маскве. Праязджаючы па мосце ад плошчы імя Леніна ў бок Юбілейнага, мы бачым тэрасы сведчанні былой магутнасці ракі. У 17 стагоддзі, калі да Магілёва падыйшло войска пад камандаваннем Радзівіла, была праблема, як фарсіраваць Дзебру. Напярэдадні Паўночнай вайны магілёўцы ўбівалі палі (сваі) у дно ракі Дзебра, каб вораг не меў магчамасці пераворзіць па ёй войска.

Падобна да Дзебры і рака Струшня - правы прыток Дубравенкі даўжынёю менш 3 км. Цяпер падобна на ручаёк, і толькі назва вуліцы каля Быхаўскага рынку, магчыма, хутка будзе нагадваць пра існаванне ракі, якая ў мінулым мела назву Уструшня.

З правага боку ў Дубравенку, у раёне Пячэрскага лесапарку, упадае ручэй (рака) Прыснянка даўжынёю каля 3,5 км. Вельмі маляўнічы.

Завяршаючы размову пра рэкі, трэба ўзгадаць раку Качарага, якая цякла паралельна Дняпру яшчэ ў пачатку XX ст. і ўпадала ў Святое возера. Толькі канавы ў раёне Абісініі нагадваюць нам аб ёй.

Улюбёнымі месцамі адпачынку гараджан з'яўляюцца берагі двух магілёўскіх азёр. Пячэрскае возера было штучна ўтворана на р. Дубравенка. Займае плошчу 10 га, найвялікшая даўжыня 1,6 км, шырыня 170 м, глыбіня 4,5 м. Шмат паданняў аб знікшай пад вадою царкве звязана з назваю Святога возера ў Магілёве. Але хутчэй за ўсё яго так назвалі з-за выключных якасцей вады. Сапраўды, Святое возера - самае чыстае вадасховішча на тэрыторыі Магілёва. У савецкі час, калі змагаліся з рэлігіяй, яго сталі называць Грабянёўскім. Яно займае плошчу 28 га, даўжынёю 820 м, шырынёю 490 м, глыбіня 12 м. Калісьці, яшчэ ў СССР, у водах возера праводзілася Усесаюзнае спаборніцтва па падводнаму арыентаванню. А сёння - гэта не толькі цудоўны пляж, але і месца правядзення народнага свята «Купалле».

Вабяць магілёўцаў і шматлікія кар'еры, якія запоўнены вадою і ўтварыліся ў выніку прамысловай здабычы пяску.

Напрыканцы, карціць сказаць, некалькі слоў пра крыніцы. Найбольш вядомыя дзве. Магілёўская крыніца ў Любужскім лесе - радовішча мінеральных вод па левым беразе Дняпра і помнік прыроды - Палыкавіцкая мінеральная крыніца. Яна была ўпершыню навукова даследавана ў 1802 г. Акадэмікам В.М.Севергіным. Па паданнях кожную 8-ю, 9-ю і 10-ю пятніцу пасля праваслаўнай Пасхі вада крыніцы лічыцца святой (гаючай). Кожны дзень магілёўцы ідуць да крыніцы, да вады. Бо без яе, як у той песні: «... і ні туды, і ні сюды».



Геаграфічныя ўмовы і абумовілі з'яўленне стаянак і паселішчаў старажытных людзей на тэрыторыі сучаснага горада.

(Працяг у наступным нумары)




## Арганізацыя "Agency for international initiatives"

запрашае прыняць удзел у адукацыйнай праграме па тэме: Еўрапейскі звяз, правы чалавека, НДА, якая пройдзе ў горадзе Кракаў (Польшча).

Стажыроўкі адбудуцца ў тры этапа: з 10 па 19 верасня 2007г., з 17 па 26 кастрычніка 2007г., з 07 па 16 лістапада 2007г.

Прымаюцца заяўкі ад прадстаўнікоў НДА, партый, другой часткі моладзі якія падтрымліваюць дэмакратычныя каштоўнасці. Узрост удзельнікаў ад 18 да 33 гадоў.

Па завяршэнні праграмы ўдзельнікі атрымаюць дыплом University Jagiellonian.

Арганізатары праграмы забяспечваюць:

1. Афармленне дакументаў для выраба візы
2. Фінансавае і страхавое забеспячэнне знаходжання ў Польшчы
3. Аплату праезду ў два бакі (купэйны вагон цягніка, аўтобус)
4. Культурную праграму (Закопане, Велічка, музеі, іншае)
5. Сілкаванне, пражыванне ўдзельнікаў

**Па пынаннях удзелу ў стажыроўцы і афармленні запрашэння звяртатеся па телефонах рэдакцыі, альбо праз электронную пошту Magilev-times@yandex.ru**

***Шаноўныя бацькі!***

*Дзіцячы Сад №81 абвяшчае набор у беларускамоўную групу для дзетак 2-4 гадоў ад нараджэння.*

*Беларускамоўная група гэта:*

- *Лепшыя метадычныя матэрыялы ды выхавацелі*
- *Індывідуальны падыход да кожнага дзіцяці*
- *Апека найбуйнейшай грамадскай арганізацыі Беларусі - Таварыства Беларускай мовы імя Францыска Скарыны*

*Заявы пымаюцца па адрасу Дзіцячага Садку №81:*
*г. Магілёў, бульвар Днятроўскі, 58 А*
***Тэл. для даведак: 26-06-69, 8(029)388-35-61***



## ЮМОР

☺☺☺

Жена - мужу:
- Почему ты вчера пришел домой в 5 часов утра?
- А куда еще в этом городе можно пойти в 5 часов утра?!

☺☺☺

Ему хотелось петь и плясать, однако мешал давивший на плечо гроб с тещей.

☺☺☺

Заходят два скинхэда в стройматериалы: - У вас арматура есть? - Да. Что строить собираетесь? - Светлое будущее.

☺☺☺

- Василий Иваныч, Вы за Битлз или за Роллинг Стоунз?
- А Леннон в каком?

**Галоўны рэдактар:** Ганна Ільіна

**Тэхнічны рэдактар:** Сяргей Стральцоў

E-mail: mogilev-times@yandex.ru
+375291446819
+375297410470
(0222) 25-73-05

Надрукавана на абсталяванні Магілёўскай гарадской арганізацыі АГП, г. Магілёў, вул. Ленінская, д. 29, к. 305
Распаўсюд бясплатны.
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Падпісаны да друку 24.07.2007.
Наклад 299 асобнікаў.